ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 77 (1714) | Аўторак, 25 верасня 1962 года | Цана 4 кап.

## ДА ДЭКАДЫ самадзейнага МАСТАЦТВА БССР

— Як праходзіць падрыхтоўка да Дэкады самадзейнага мастацтва Беларусі? — з такім пытаннем рэдакцыя звярнулася па тэлефоне да некаторых культасветустаноў рэспублікі. Вось што нам паведамілі:

**БАГУШЭЎСК.** — Праграма, якую рыхтуюць артысты раённага Дома культуры, невялікая, але цікавая, яна складаецца з песень і танцаў народаў нашай краіны, а таксама краін народнай дэмакратыі, — гаворыць дырэктар РДК Пятро Якаўлевіч Локцеў. — Спевакі развучваюць песні «Ленін у сэрцах», «Шуміць наша слава», «Бліны». Танцоры выканаюць беларускую «Лявоніху», малдаўскі «Жок», сібірскі танец, «Польку».

**ТАЛАЧЫН.** Да тэлефона падышоў загадчык райаддзела культуры Васіль Мікалаевіч Луцэйковіч. Ён сказаў:

— У нас цяжкі час. Многія ўдзельнікі калгаснай самадзейнасці заняты на палявых работах. Таму рэпетыцыі пачынаюцца ў 10—11 гадзін вечара. Нягледзячы на гэта юнакі і дзяўчаты добра рыхтуюцца да дэкады. Актыўна праходзяць рэпетыцыі ў Навасёлкаўскім і Плоскім сельскіх клубах.

**БАРАНАВІЧЫ.** «Добры дзень, будучыня» — так называецца праграма, якую рыхтуюць да дэкады ў гарадскім Доме культуры. Яна пачнецца выкананнем «Баранавіцкага вальса», словы якога напісаў служачы гарпрамкамбіната Павел Станкевіч, а музыку — самадзейны кампазітар Сяргей Аліхвер. Эстрадны аркестр выканае фантазію на беларускія тэмы і кубінскія мелодыі. У аглядзе прыме ўдзел струнны аркестр пенсіянераў і ансамбль танца чыгуначнікаў, які рыхтуе сюіту «Дружба краін сацыялістычнага лагера», — паведаміла рэдакцыі мастацкі кіраўнік Дома культуры Алена Антонаўна Атрашкевіч.

**ЛУНІНЕЦ.** Інспектар райаддзела культуры Наталля Паўлаўна Лапцева перадае: — Гурткі Дома культуры рыхтуюць разнастайныя нумары. Харавы калектыў пасёлка Мікашэвічы, які складаецца з 80 спевакоў, развучвае песні аб Леніне і партыі. У Лунінецкім РДК актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да дэкады прымаюць аматары самадзейнага мастацтва медыцынская сястра Ганна Кабадзейцава, работнік райпрамкамбіната Уладзімір Рыхцер, загадчык дзіцячай бібліятэкі Іосіф Людзецкі і іншыя.

**БАРЫСАЎ.** — У раённым Доме культуры каля 150 аматараў мастацтва дзейна рыхтуюцца да дэкады,—гаворыць дырэктар Дзмітрый Рыгоравіч Тумарэц, — гэта спевакі, танцоры, чытальнікі. Хто з іх атрымае права ўдзельнічаць у аглядзе ў Мінску—цяжка сказаць. Але калектывы рыхтуюцца напружана, з натхненнем.

## КРОЎ ЗЯМЛІ

Д. ПІНХАСІК

Цудоўны Дняпро пры ціхім надвор'і... Вы ўспамінаеце паэтычныя гогалеўскія радкі, якія палюбіліся вам яшчэ з дзяцінства, і перад вашым усхвалявалым унутраным позіркам паўстае велічная карціна ўкраінскай прыроды. «Матухна» — гэтым самым пяшчотным і ласкавым словам ахрысціў рускі народ прыгажуню Волгу. «Ой, Нёман, ты бацька наш, Нёман!» — урачыста звяртаюцца беларусы да роднай магутнай ракі. І так — усюды, ва ўсіх народаў, са стагоддзя ў стагоддзе. У песнях лірычных і рамантычных, у фантастычных легендах і рэальных былях услаўляюць людзі рэкі, гэты вялікі дар прыроды.

І гэта не дзіва. Не выпадкова ж нашы далёкія-далёкія продкі сяліліся ўздоўж водных артэрый, якія жывілі зямлю, як чалавека кроў. І нават у нашы часы, калі зямлю пакрыла густая сетка чыгунак і калі неба абжыта чалавекам, як родны дом, не страцілі рэкі ні значэння, ні гордай славы сваёй! Ёсць такі эканамічны выраз, які гучыць вельмі празаічна, — «водныя рэсурсы». Але якое гэта шматграннае паняцце! Гэта ж не толькі люстраная гладзь рэк і азёр, якія даюць нам велізарную эстэтычную асалоду і магчымасць прыгожа адпачываць і фізічна загартоўвацца. Гэта ж— энергія электрастанцыі і тысячакіламетравыя шляхі зносін; гэта крыніца жыўлення сельскагаспадарчай і прамысловай вытворчасці; гэта водазабеспячэнне гарадоў і сёл; гэта кладоўкі незлічоных рыбных багаццяў і жывы эскалатар для сплава лесу. Ды што і казаць — цяжка назваць такую галіну народнай гаспадаркі і такую галіну быта, якія маглі б развівацца без выкарыстання водных рэсурсаў. Без іх прырода мёртвая.

Нездарма чалавек заўсёды імкнуўся не толькі выкарыстоўваць наяўныя водныя рэсурсы, але і памнажаць іх. Што, аднак, мог у царскай Расіі зрабіць народ, узброены толькі рыдлёўкай ды неўтаймоўнай фантазіяй? Былі пракапаны невялікія каналы, ды выношваліся праекты злучэння мораў. Выношваліся праекты... Але навошта марыць аб палёце, калі няма крылляў! Толькі ў наш, ленінскі час, народ набыў магутныя крылы і самую смелую мару робіць явай. Па дзікіх паўночных землях пралёг Беламорска-Балтыйскі шлях. Сталіцы Радзімы — Маскве даў выхад у мора Волга-Данскі канал. Праз бяскрайнія пяскі чорнай пустыні панёс вільгаць фантастычны, як усходняя казка, Кара-Кумскі канал. Воляй, розумам і энергіяй савецкіх людзей запляскалі крутой хваляй мора Цымлянскае і мора Куйбышаўскае.

Але і ўсё, што было зроблена дагэтуль, ні ў якое параўнанне не ідзе з грандыёзным планам злучэння Чорнага і Балтыйскага мораў. Ідэя гэтая здаўна хвалявала сэрцы людзей і займала думкі вучоных. І толькі ў нашы дні, дні дзівосных здзяйсненняў, дні небывалага росквіту савецкай тэхнікі, ёй суджана збыцца. Маштабы гэтай будоўлі вартыя размаху стваральных работ, намечаных Праграмай партыі. Дзве з палавінай тысячы кіламетраў будзе несці свае воды Днепра-Нёманскі водны шлях ад Клайпеды да Херсона, па землях украінскіх і беларускіх, землях літоўскіх і калінінградскіх. Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў так ахарактарызаваў значэнне і намаляваў сапраўды захапляючую перспектыву гэтага шляху: «Вялікія патокі грузаў з паўночна-заходніх і іншых раёнаў краіны, а таксама грузы, што ідуць з Балтыйскага мора, змогуць тады пайсці праз чарнаморскія порты, мінуўшы Гібралтар, у Міжземнае мора, а з паўднёвых раёнаў — па Дняпры праз Прыпяць і Нёман—у Балтыйскае мора. Шлях ва ўсходнюю частку Міжземнага мора скароціцца прыкладна ўдвая». Вось ён які, Днепра-Нёманскі канал! Стане Беларусь марской дзяржавай, убярэ ў сябе Прыпяць воды Палескай нізіны, больш паўнаводнымі стануць шматлікія палескія рэкі...

Стануць больш паўнаводнымі... Што гэта азначае? Ці толькі тое, што па рэках, глыбіня якіх дасягне на ўсім працягу амаль чатырох метраў, пройдуць шматтанажныя судны? Што загрукочуць турбіны і загарацца агні новых электрастанцый? Што ў засушлівыя гады прыбярэжныя землі не будуць марнець ад спёкі, а ў пераўвільготненыя гады палі не будуць цярпець ад лішку вільгаці? Усё гэта правільна. Правільна, аднак, і тое, што чалавек атрымае больш вады для сваіх бытавых і культурных патрэб. Ці так гэта важна? Несумненна. Спажыванне вады — адзін з важнейшых паказчыкаў ступені культурнасці чалавека. Нездарма гэтая патрэбнасць плануецца. А планы раскрываюць надзвычай цікавыя вымяральнікі. Скажам, два гады таму назад кожны жыхар Беларусі спажываў, з улікам прамысловай, сельскагаспадарчай вытворчасці і камунальнай гаспадаркі, у сярэднім 270 літраў вады за суткі. Да канца сямігодкі гэта лічба амаль падвоіцца, а на рубяжы гістарычнага дваццацігоддзя, у 1980 годзе, яна будзе выражацца ў дзве тысячы літраў за суткі. Гэта значыць, што калі цяпер мы забіраем для спажывання васемсот мільёнаў кубічных метраў вады за год — столькі, колькі працякае ў Мухаўцы ля Брэста, то праз дваццаць год мы будзем забіраць сем мільярдаў трыста мільёнаў кубаметраў за год — колькасць, роўная гадавому фонду Заходняй Дзвіны ля Віцебска.

Ну і што ж? Хіба не хопіць вады, асабліва ў нашай рэспубліцы, у краі, дзе даўжыня рэк складае звыш пяцідзесяці тысяч кіламетраў? Аптымісты сцвярджаюць, што водныя рэсурсы практычна невычарпальныя. Зразумела, у іх для гэтага ёсць падставы. У прыродзе існуе складаны і таямнічы геафізічны працэс, які называецца кругаваротам вады. Згодна з ім вадаёмы няспынна папаўняюцца. Да таго ж, чалавек настолькі стаў уладаром над прыродай, што здольны ствараць, як гэта ўжо ўказвалася раней, штучныя вадаёмы. Значыць, няма прычын для неспакою? Не будзем, аднак, спяшацца з вывадамі.

Вышэй мы прыводзілі дадзеныя: колькі спажываем і будзем спажываць, колькі забіраем і будзем забіраць вады з вадаёмаў і шчылін. Але ж мы і вяртаем яе назад. Два гады таму назад у рэкі скідвалася палавіна забранай вады, у далейшым яны будуць прымаць семдзесят працэнтаў яе. Прамысловыя і камунальна-бытавыя прадпрыемствы забіраюць з вадаёмаў чыстую ваду. У якім жа выглядзе яны вяртаюць яе? Адказ на гэтае пытанне і прымушае неспакойна біцца нашы сэрцы.

Па берагах рэк і азёр, у гарадах і сельскіх раёнах рэспублікі раскіданы шматлікія прадпрыемствы, вялікія і малыя. Кожнае з іх, выкарыстоўваючы ваду, скідвае яе ў рэкі — то праз каналізацыйную сетку, то прама адкрытымі ручаямі. Але гэтая перапрацаваная вада мае ў сабе маслы, кіслоты і іншыя шкодныя прымесі. Каб вада гэта была бясшкоднай, яе трэба прапусціць праз сістэму ачышчальных канструкцый. А яны далёка не ўсюды ёсць, а калі і ёсць, то не ўсюды спраўныя. Сумныя вынікі гэтага даўно ўжо даюць сябе знаць няўмольна і бязлітасна. У сцёчныя канавы ператварыліся Полата ля старажытнага Полацка, Віцьба ля Віцебска і шмат іншых падобных рачулак. Часам людзі самі не падазраюць, як дорага каштуе іх бесклапотнасць, і мудрую народную прымаўку—«Не плюй у калодзеж—давядзецца напіцца» — разумеюць толькі ў пераносным, а не ў прамым сэнсе.

Ёсць у Барысаве невялікае і не вельмі важнае прадпрыемства — шпалапрапітачны завод. І вось кіраўнікі гэтага заводзіка ў мінулым годзе спусцілі ў Бярэзіну некалькі тон ядавітага крэазоту. Гэтага аказалася дастаткова, каб усё жывое ў рацэ было забіта на працягу дзесяткаў кіламетраў. Вінаватыя былі пакараны. Але чым і калі папоўніш страты роднай прыроды, нанесеныя імі?

Хвароба бесклапотнасці ў адносінах да жывой прыроды пашырана не толькі ў нашай рэспубліцы. Яна гуляла амаль па ўсіх рэках краіны і пагражала жорстка адпомсціць людзям за іх слепату. І людзі ўзняліся насустрач, няхай не заўсёды прыкметнай, але каварнай бядзе. Зразумела, і раней прымаліся меры, што засцерагалі вадаёмы ад забруджвання: будаваліся ачышчальныя канструкцыі, вінаватыя ў забруджванні падвяргаліся штрафу, дзе-нідзе рашуча дзейнічала санітарная інспекцыя. Але гэтыя меры былі недастатковыя.

На ахову рэк павінна была ўзняцца грамадскасць. І яна ўзнялася. Першым падаў голас быстрацечны Іртыш. Калектывы прадпрыемстваў саўнаргасаў, размешчаных у яго басейне, разгарнулі сацыялістычнае спаборніцтва за чысціню магутнай сібірскай ракі. На іх заклік адгукнулася Паволжа. Яраслаўскі і Горкаўскі, Татарскі і Ульянаўскі, Куйбышаўскі і Саратаўскі, Волгаградскі і Астраханскі саўнаргасы падпісалі сацыялістычны дагавор аб ахове вялікай Волгі. Услед за імі ў паход за чыстыя воды Дняпра, Дона, Церака рушылі калектывы саўнаргасаў Украіны, Прыазоўя, Грузіі.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

Мацнеюць і пашыраюцца культурныя сувязі працоўных нашай рэспублікі з краінамі сацыялістычнага лагера, асабліва з Польскай Народнай Рэспублікай. Многія нашы прафесіянальныя і самадзейныя артысты наведваюць суседнюю Польшчу, у сваю чаргу польскія артысты з поспехам выступаюць у нашай рэспубліцы.

Работнікі кніжнага гандлю Беларусі праводзяць тыдні па продажу зарубежнай кнігі. З 10 па 20 кастрычніка г. г. у Мінску праводзіцца Дэкада польскай кнігі. Наш карэспандэнт наведаў спецыялізаваны кніжны магазін краін народнай дэмакратыі, якому нядаўна прысвоена званне «Лепшы магазін Міністэрства культуры БССР». Загадчыца магазіна Л. Сарнова расказала:

— Стала ўжо традыцыяй кожны год праводзіць Дэкаду польскай кнігі. Цяпер у адрас магазіна прыбывае многа літаратуры з Польскай Народнай Рэспублікі. Ужо атрымана звыш 1100 экземпляраў кніг, каля 150 назваў па ўсіх галінах ведаў.

У час дэкады ў магазіне будзе арганізавана выстаўка твораў пісьменнікаў Польскай Народнай Рэспублікі.

Фотакарэспандэнт Ул. Крук зазняў Л. Сарнову (злева) і прадаўца першай катэгорыі С. Карлаву, якія разбіраюць чарговую партыю кніг з Польскай Народнай Рэспублікі.

У лістападзе гэтага года ў кніжным магазіне краін народнай дэмакратыі адбудзецца таксама Тыдзень чэхаславацкай літаратуры.

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

У снежні гэтага года спаўняецца 40 год з дня выхаду ў свет першага нумара часопіса «Полымя». Пытанне аб правядзенні юбілею старэйшага літаратурнага часопіса краіны абмяркоўвалася на чарговым пасяджэнні прэзідыума Саюза пісьменнікаў БССР. Выступаўшыя Я. Скрыган, А. Вялюгін, С. Грахоўскі, І. Шамякін адзначылі, што ўсе гэтыя гады часопіс увасабляў росквіт беларускай савецкай культуры, літаратуры і мастацтва, выхаваў шмат таленавітых пісьменнікаў, умацоўваў дружбу братніх літаратур. Прэзідыум вырашыў правесці агульнагарадскі юбілейны вечар. Створана камісія па правядзенню юбілею.

У члены Саюза пісьменнікаў прыняты М. Стральцоў, Ул. Ляпёшкін, А. Ставер, Ул. Паўлаў, М. Фігуроўскі.

Яны працуюць у розных установах, але некалькі разоў на тыдзень збіраюцца ў Мінскі Палац культуры прафсаюзаў. Вы бачыце актыўных удзельнікаў танцавальнага гуртка кантралёра гадзіннікавага завода Рыту Чорную, зборшчыка радыёзавода Вячаслава Старыкава, студэнтку інстытута замежных моў Святлану Сырову, швачку вытворчага камбіната Тэатра оперы і балета Паліну Міронаву на рэпетыцыі.

Фота Ул. КРУКА.

## МУЗЫКА ЗНАХОДЗІЦЬ СЯБРОЎ

**Працягваем гаворку аб рабоце народных універсітэтаў. Сёння на старонках нашай газеты выступае музыказнаўца Алена Ракава. Яна дзеліцца сваімі ўражаннямі ад сустрэч са слухачамі гэтых універсітэтаў, выказвае думкі, як лепш наладзіць прапаганду музычных ведаў ва універсітэтах культуры нашай рэспублікі.**

А. РАКАВА.

Работа лектара цікавая тым, што дае магчымасць трымаць пастаянную сувязь са слухачамі. Сустрэч з імі ў мяне шмат. Даводзіцца выступаць перад больш і менш падрыхтаванымі слухачамі (я маю на ўвазе ступень іх музычнай падрыхтоўкі, і больш за ўсё — агульны ўзровень развіцця, адукацыі, культуры). У залежнасці ад гэтага гутаркі таксама бываюць розныя.

Прыгадваю свае шматлікія выступленні перад самымі рознымі аўдыторыямі. Неяк улетку пабывала я ў Астравецкім раёне. У раённым Доме культуры сабралася шмат народу. Вялікая адлегласць ад буйных гарадоў нашай рэспублікі з'яўляецца прычынаю таго, што ў Астраўцы не так часта можна пачуць канцэрты беларускіх артыстаў. Універсітэт культуры, які працуе там, бадай, адзіны асяродак эстэтычнага выхавання працоўных.

У Доме культуры няма музычнага кіраўніка, там мараць пра тое, каб мець баяніста, які будзе працаваць з калектывамі мастацкай самадзейнасці. Застаецца толькі зайздросціць іх вялікай і шчырай цікавасці да мастацтва, да музыкі, іх жаданню спазнаць як мага больш.

Кожны прыезд канцэртнай брыгады, лектара выклікаюць жывую цікавасць у жыхароў невялікага гарадка. У той вечар, калі група беларускіх кампазітараў і выканаўцаў выступала на сцэне Дома культуры Астраўца, зала была перапоўнена. З вялікай увагай слухалі нас. Пасля канцэрта — пытанні, запрашэнні, пажаданні поспехаў, кветкі...

Другая наша сустрэча тады была яшчэ больш хвалюючай. Як дарагіх гасцей сустракалі нашу групу калгаснікі сельгасарцелі імя Чапаева ў вёсцы Варняны Астравецкага раёна. Слухачы занялі ўсе месцы ў зале калгаснага клуба, яны стаялі ў праходах і нават пазіралі ў вокны са двара. Ва ўсім адчувалася добразычлівасць, шчырая цікавасць да беларускага мастацтва, да творцаў музыкі і яе выканаўцаў.

Беларускія цымбалы вядомы ў нашай рэспубліцы ўсюды, але прафесіяналаў-цымбалістаў бачылі далёка не ўсе. Адна са слухачак не ўтрымалася і ў час ігры цымбаліста М. Шмелькіна падышла да самай сцэны, каб «сваімі вачыма» ўбачыць, адкуль льюцца гукі...

Прыгадваю таксама сустрэчу са слухачамі універсітэта культуры ў пасёлку Шарашова Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. У той вечар у нас адбылася цікавая размова аб савецкай песні. З захапленнем прымалі выступленне спевака, заслужанага артыста БССР Б. Макарава. Вялікім натоўпам праводзілі да машыны, дзякавалі і прасілі прыязджаць.

Пасля такіх сустрэч, якія не забываюцца на многія гады, мяне заўсёды ахоплівае пачуццё ўдзячнасці да слухачоў і пачуццё вялікай адказнасці за тую вялікую справу, якая носіць назву «Народны універсітэт культуры».

У мінулым навучальным годзе ў Беларусі працавала 94 універсітэты культуры: на буйнейшых прадпрыемствах, у навучальных установах, у раённых дамах культуры, у калгасах... У апошні час з'явіліся універсітэты культуры пры домакіраўніцтвах. Такі універсітэт у мінулым навучальным годзе працаваў пры домакіраўніцтве № 1 Ленінскага раёна Мінска. Мне даводзілася выступаць з лекцыямі перад слухачамі гэтага універсітэта. Сярод іх — людзі розных узростаў, у большасці— пажылыя, пенсіянеры. Гэта выключна ўважлівая, чулая аўдыторыя; многія са слухачоў маюць вялікі жыццёвы вопыт, веды; высокі культурны ўзровень іх дазваляе лектару аперыраваць больш шырокім матэрыялам.

Але бываюць і іншыя сустрэчы, зусім не падобныя на тыя, пра якія расказала вышэй. На жаль, і гэтыя сустрэчы часам запамінаюцца надоўга, толькі з пачуццём болю і крыўды.

Вось адна з іх. Было гэта ў Слуцку. Запрасілі мяне прачытаць лекцыю аб савецкай песні. Як заўсёды, у радасна прыўзнятым настроі я рыхтавалася да сустрэчы, у якой павінны былі прыняць удзел і выканаўцы: аб музыцы нельга гаварыць, калі не будзе самой музыкі.

У фае нас здзівіла цішыня, цемра; у зале не гарэлі агні, і нідзе нікога не было. Вырашылі адразу — штосьці адбылося і лекцыю адмянілі, забыўшыся нас папярэдзіць. Ну, што ж, і так бывае... Але на сцяне ў кутку вісела невялікая аб'ява, якая паведамляла аб чарговых занятках універсітэта культуры. Чаму ж тады няма слухачоў? Нас суцяшалі — нічога, хутка збяруцца.

Сабралася чалавек 20. Мы правялі лекцыю-канцэрт, хоць у мяне ўвесь час было такое адчуванне, быццам я размаўляю з пустымі крэсламі. З цяжкім пачуццём ехалі назад. Дзвесце з лішнім кіламетраў дарогі, хваляванне, трата душэўных ды і фізічных сіл — усё гэта здавалася непатрэбным. У той вечар ні слухачы, ні я, відавочна, не атрымалі ніякага задавальнення ад нашай сустрэчы.

У некаторых універсітэтах культуры знізілася колькасць слухачоў. Чым гэта растлумачыць? Адны спасылаюцца на тое, што ў Мінску, маўляў, багата разнастайных мясцін для культурнага адпачынку, і моладзь цяжка зацікавіць заняткамі ў народным універсітэце. Калі паверыць гэтай версіі, то чым растлумачыць, напрыклад, выпадак у Слуцку? Слуцк не так блізка ад сталіцы і «культурных мерапрыемстваў» там менш.

Другія кіраўнікі універсітэтаў культуры тлумачаць малалікасць аўдыторыі іншымі прычынамі: папярэдняя, маўляў, лекцыя, была нецікавая, сумная, вось і слаба ідзе моладзь на наступную; вясной — работа ў вольны час у гародзе, у садзе; летам — хочацца пагуляць у парках; восенню — яшчэ не раскачаліся пасля летняга перапынку; зімой — холад, мяцеліцы.

Я думаю, што такія тлумачэнні — проста бездапаможныя спробы апраўдаць сваю абыякавасць да прапаганды эстэтычных ведаў.

Вялікую ролю павінна тут адыграць рэклама. Так, так, рэклама. Трэба ўмець цікава расказаць людзям, што яны атрымаюць, стаўшы слухачамі універсітэта культуры, які цудоўны свет пачуццяў і думак адкрыецца перад імі, як на многа багацейшымі стануць яны духоўна. Такой рэкламы ў нас, на жаль, не ўмеюць рабіць.

На радзе прадпрыемстваў да адкрыцця універсітэтаў культуры ставіліся фармальна. Модна гэта цяпер? Модна. Паказчык вялікай культурнай работы з моладдзю? Так. Значыць, трэба адкрыць універсітэт. Мне здаецца, што запіс у такія універсітэты культуры праводзіўся пад лозунгам — больш слухачоў у спісы! Пры гэтым не ўлічваліся запатрабаванні моладзі, рэальныя магчымасці слухачоў больш сталага ўзросту. І паступова «адсейваліся» тыя, хто запісаўся выпадкова, паддаўшыся ўгаворам, пераацаніў свае магчымасці і час. Затое трывала засталіся тыя, хто запісаўся па загаду сэрца, па закліку душы, хто не ўяўляе сваё жыццё без мастацтва, хто чэрпае ў ім не толькі асалоду, але ў першую чаргу духоўнае задавальненне.

Іх, энтузіястаў гэтай справы, усё ж засталося многа, і яны маюць права патрабаваць, каб па-сапраўднаму была пастаўлена работа універсітэтаў культуры, каб час, які яны аддаюць заняткам ва універсітэце, не прападаў дарэмна, а веды, якія атрымліваюць там, павінны быць высокія. Ці так гэта заўсёды? Не. Тут, мне думаецца, паўстаюць два пытанні: **як** вядзецца размова аб музыцы і **хто** вядзе гэту размову? Пачну з апошняга.

Да апошняга часу нявырашанай застаецца праблема лектараў у народных універсітэтах. Часта новыя універсітэты ствараюцца без уліку наяўнасці лектараў і рэальнай магчымасці запрашаць іх з Мінска. Ды і нельга спадзявацца толькі на гэтую крыніцу. Філармонія, Саюз кампазітараў, рэспубліканскае Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў, кансерваторыя — гэтыя арганізацыі не могуць задаволіць шматлікія патрабаванні з раёнаў і абласцей. Таму трэба спадзявацца на лектарскія сілы, якія ёсць у музычных вучылішчах і музычных школах. Час прыцягнуць іх да актыўнай работы. Значнае месца сярод лектараў павінны заняць студэнты старэйшых курсаў тэарэтычных аддзяленняў музычных навучальных устаноў. Яны — будучыя музыказнаўцы, лектары, прапагандысты музычных ведаў — гэтую высакародную справу могуць і павінны пачынаць ужо ў студэнцкія гады. У многіх гарадах ужо трывала выкарыстоўваюць уласныя сілы. У іншых чакаюць дапамогі з Мінска.

Не менш важнае пытанне, **як** вядзецца размова аб музыцы? Што даюць слухачам заняткі, аб чым расказваюць лектары, чым ілюструюць?

Мне думаецца, што ў многіх універсітэтах культуры тэматыка лекцый распрацавана няправільна. Вось перада мной абанемент аднаго з мінскіх універсітэтаў культуры. 18 лекцый-канцэртаў, прачытаныя за дзевяць месяцаў, павінны, на думку арганізатараў універсітэта, даць слухачам вычарпальнае ўяўленне аб музыцы, аб яе жанрах і формах, аб кампазітарах самых разнастайных эпох і творчых напрамкаў. Некаторыя з гэтых тэм, прысвечаныя творчасці асобных кампазітараў, могуць быць прыняты без пярэчанняў. Напрыклад, лекцыі пра Глінку, Чайкоўскага, аб кампазітарах «магутнай кучкі», а таксама аб савецкай песні, аб ролі мастацтва ў грамадскім жыцці. Але вось, напрыклад, тэма: «Як слухаць і разумець музыку. Музычныя жанры і формы». Ці можна за адну лекцыю даць слухачам уяўленне аб тым, як навучыцца разумець цудоўны свет музыкі, як навучыцца яе ўспрымаць, любіць, а таксама расказаць аб асноўных жанрах і формах музычных твораў і праілюстраваць гэта (абавязкова) на радзе музычных прыкладаў. Мне, здаецца, што зрабіць гэта немагчыма.

А як, скажам, вычарпаць такія тэмы: «Сімфанічная і камерная музыка», «Оперная і балетная музыка», «Музычная культура краін народнай дэмакратыі» або «Заходнееўрапейская музычная культура XIX стагоддзя», калі на іх адводзіцца па адной лекцыі? У апошняй тэме ў лепшым выпадку можна паспець назваць толькі імёны выдатных кампазітараў, якія жылі і тварылі ў мінулым стагоддзі.

Могуць запярэчыць: **а што ж рабіць, калі часу мала і трэба паспець расказаць аб многім?** Я, ў сваю чаргу, скажу: а ці трэба так спяшацца, каб за адзін навучальны год падаць слухачам універсітэта культуры ўсё «музычнае меню» поўнасцю? А калі універсітэтам культуры з двухгадовым тэрмінам навучання трэба яшчэ паспець пазнаёміць слухача з мастацтвам тэатра, кіно і жывапісу? На гэтае пытанне майго ўяўнага апанента я хачу прапанаваць наступнае: магчыма, варта падумаць аб тым, каб стварыць універсітэты музычнай культуры з двух- ці трохгадовым тэрмінам навучання (прыклады гэтага ў рэспубліцы ўжо ёсць). Няхай іх слухачамі стануць сапраўдныя аматары музыкі, якія здолеюць за час навучання грунтоўна зразумець складаны і захапляючы свет музыкі, засвоіць музычную тэрміналогію, атрымаць першапачатковыя навыкі музычнай граматы, уяўленне аб жанрах і формах; якія, нарэшце, будуць не толькі слухачамі лекцый-канцэртаў, а ўдзельнікамі цэлага раду семінарскіх заняткаў, на якіх яны выступяць як сапраўдныя студэнты. Тады гэта будуць не лекторыі пад маркай універсітэтаў культуры (як гэта часта бывае), а сапраўдныя народныя універсітэты.

Яшчэ адно важнае пытанне, якое чакае свайго вырашэння— пытанне аб музычнай ілюстрацыі. У размове аб музыцы абавязкова павінна «ўзяць слова» музыка. Гэта прасцей зрабіць у Мінску. А што рабіць на перыферыі? Спадзявацца на сталічных музыкантаў цяжка: значыць, і тут трэба абапірацца на мясцовыя магчымасці: выкладчыкаў вучылішчаў і школ. Вялікую ролю павінны адыграць магнітафонныя запісы, якія ўключаць у сябе асноўны музычны матэрыял для ілюстрацый лекцый. Гэтым пытаннем павінны заняцца арганізацыі, якія адказваюць за работу універсітэтаў культуры.

Праўда, я не магу не заўважыць, што празмерна вялікія спадзяванні на магнітафонныя запісы былі б не вельмі пажаданыя: слухачы, седзячы ў канцэртнай зале, лепш і больш ахвотна ўспрымаюць жывое выкананне. Я памятаю, напрыклад, слухачоў Палаца культуры Гродзенскага тонкасуконнага камбіната. Як жыва яны ўспрымалі сваіх жа выканаўцаў — педагогаў музычна-педагагічнага вучылішча, якія ілюстравалі адну з маіх лекцый, і як цяжка далася ілюстрацыя другой лекцыі, што прагучала ў запісу. Тым не менш фонд магнітафоннага запісу трэба абавязкова мець, ён адыграе сваю значную ролю.

Хочацца закончыць свой артыкул выказваннем упэўненасці, што ў новым навучальным годзе работа народных універсітэтаў будзе значна палепшана і яны стануць сапраўднымі школамі эстэтычнага выхавання нашых савецкіх людзей.

# АДНО З СЯМІ МАГЧЫМЫХ

Калі чалавек бярэцца за літаратурную работу, за «чорны хлеб» творчасці, то ў большасці выпадкаў у яго ёсць што сказаць людзям. Думкі і вобразы, нейкія важныя праблемы трывожна б'юцца ў душы літаратара, патрабуюць расказаць аб іх іншым.

Пры знаёмстве са зборнікам апавяданняў Івана Сіняўскага «Ой, рэчанька, рэчанька...», адчуваеш, што іменна такія высакародныя і чыстыя намеры прымусілі яго ўзяцца за пяро. У апавяданнях гутарка ідзе аб узаемаадносінах паміж людзьмі, аб цяжкасцях, якія сустракаюцца ў іх жыцці. Аўтара вабіць канфлікт паміж пачуццём і абавязкам, паміж асабістым і грамадскім. Агульную для ўсіх апавяданняў думку можна выказаць прыкладна так: чалавек павінен жыць дастойна і прыгожа, трэба пазбавіцца ад усяго бруднага і дробнага, што часам псуе, а часам і цяжка калечыць жыццё добрых людзей.

Але адных толькі правільных думак мала. Прачытаўшы кнігу і адклаўшы яе ў бок, неяк міжволі сам сябе пытаеш: якую часцінку тваёй душы яна завявала, што запомнілася, да якога твора хочацца вярнуцца зноў.

Вось апавяданне «Дуб». Сюжэт яго даволі звычайны. Ляснік Базыль, які і раней любіў «пагуляць», у апошні час усё часцей п'е ў кампаніі «паважных людзей». Цвярозая і больш дальнабачная Маланка, яго жонка, злосна папракае Базыля: «Ведаю я гэтых паважных. Яны, можа, знарок цябе пояць, каб задарма лесу ўзяць». І з рашучасцю сумленнага чалавека дадае: «Калі чалавек запіў, то і сумленне згубіў». Гэта балюча кранае Базыля, і ён ад крыўды спяшаецца ў лес. А жонка ж, аказваецца, мела рацыю: пакуль ён піў з жулікам Феліцыянам, з лесу знік магутны дуб-прыгажун. Цяжка перажывае сваю неахайнасць Базыль, які так ганарыўся сваёй сумленнасцю, непадкупнасцю, гаспадарскімі адносінамі да калгаснага дабра. Спакваля з'яўляюцца думкі, як выправіць сваю памылку, хутчэй знайсці злодзея. Ва ўяўнай спрэчцы з жонкай Базыль спрабуе адстайваць сваю годнасць: «Не, Маланка, няпраўда твая. Ёсць у мяне сумленне. Сёння ты сама ў гэтым пераканаешся...» І Базыль без слушных матывіровак вокамгненна мяняецца на вачах чытача. Такі «шчаслівы» канец апавядання натуральна прыглушае ўзнятую ў ім тэму, па сутнасці, зводзіць яго на нішто.

Або ўзяць другое апавяданне — «Бацька прыехаў». У ім аўтар хацеў паказаць сутыкненне асабістага з грамадскім. Каваль Іван, прыкладны і старанны калгаснік, пакрыўджаны тым, што не яго прэміравалі, ідзе з калгаса на пабочныя, выпадковыя заробкі ў горад.

Лагічна, што герой апамятаецца і вернецца ў вёску. Але як адбудзецца гэты пералом? Вяртанне Івана ў апавяданні не матывавана. Праўда, некаторыя перамены ў паводзінах героя апраўданы. Іван усё ж то дапамагае сыну на ворыве, то як бы выпадкова цікавіцца работай кузні. Пазнаўшы ў сваім напарніку жуліка, ён кідае яго і ноччу адпраўляецца дамоў. Жонка Ганна абвяшчае аб яго прыходзе сярод ночы: «Уставай, Сцёпка! Бацька прыехаў» Незразумела, чаму Ганна ўспрыняла прыезд мужа, як канчатковае вяртанне, ёй жа нічога не вядома аб перажываннях Івана.

Яшчэ менш пераканаўча гучыць канцоўка апавядання «Пад старой вярбой». Апошняя фраза: «Верка выходзіць замуж за Паўла Грудка» — можа быць растлумачана толькі тым, што дрэннае павінна быць пакарана, а дабрачыннасць узнагароджана. Вера адмаўляе надзьмутаму, фанабэрыстаму, гультаяватаму Міколу і нечакана аддае перавагу добраму, працавітаму Паўлу. Тут сама форма апавядання перашкодзіла больш поўнаму раскрыццю псіхалогіі, характараў дзеючых асоб. Падзеі перадаюцца праз успрыняцце маленькага хлопчыка. Натуральна, што многае з гісторыі Верынага кахання засталося недаступным для яго разумення. Але ж апавяданне пачынаецца словамі: «Было гэта даўно...» Значыць, расказвае дарослы, які ўжо асэнсоўвае перажытае і бачанае. Інакш кажучы, калі аўтар хацеў перадаць тое, аб чым расказвае, праз успрыняцце дзіцяці, то гэта яму не ўдалося, бо Ігнась жа пераказвае толькі знешнюю канву дзеяння, у апавяданні не адлюстроўваецца наглядальнасць дзіцяці, яго ўнутраны свет.

Спрошчана вырашан канфлікт таксама і ў апавяданні «Ой, рэчанька, рэчанька...», якое дало назву ўсяму зборніку. Антон, студэнт сельскагаспадарчага інстытута, і студэнтка Люба, будучая настаўніца, сустрэліся і пакахалі адно аднаго. Скончыўшы інстытут, малады аграном накіроўваецца ў родны калгас. Люба з ім не жадае ехаць. Але вельмі хутка ўсё вырашаецца добра: Люба адумалася, у сельскай школе якраз незанятае месца біёлага.

Гэтак жа прамалінейна, у лоб, вырашаюцца складаныя сямейныя адносіны ў апавяданні «Стрэмка». Яно прысвечана тэме «пасля вяселля». Праблема, зразумела, важная: ад несур'ёзных адносін да яе бывае столькі гора, няшчасных, пакалечаных жыццяў, нявінна пакутуючых дзяцей. Не дзіўна, што гэтая праблема вабіць пісьменнікаў. Аднак недастаткова паказаць толькі цяжкія вынікі. Каб лячыць хваробу, трэба ведаць яе прычыну. У апавяданні ж адны вынікі: дзікая, бязглуздая, неабгрунтаваная рэўнасць Міколы, маўклівыя пакуты Насці. Зноў на слова прыходзіцца верыць аўтару, што Насця і Мікола пакахалі адно аднаго. Калі верыць у гэта каханне, то прычынай разладу сям'і трэба прызнаць дурасць Міколы. Але ж чытач наўрад ці стане спачуваць яму. Не шкада яму і Насці — сама ж вінавата. Са «Стрэмкі» можна зрабіць толькі мала цікавы вывад: не трэба слухаць плеткароў.

Ці ёсць у зборніку добрыя апавяданні? Нам думаецца, адно з іх аўтару ўдалося. Гэта апавяданне «Сляды на снезе». Яно вяртае нас да дзён Вялікай Айчыннай вайны.

...Стары вяртаецца з лесу ад партызан, дзе змагаюцца два яго сыны. Гора і вораг на роднай зямлі, але сэрца бацькі саграе гордасць за дзяцей — яны на сваім месцы. Сталася так, што яго сляды на снезе вядуць ворагаў да партызанскага лагера. Жорстка збіты стары сілай волі прымушае сябе трымацца на нагах: «Ён разумеў, што калі зваліцца, то ўжо назаўсёды... Не, трэба трымацца... Трымацца хаця б да таго часу, пакуль не будзе папярэджаны партызанскі вартавы...» І настолькі моцная воля гэтага чалавека, такая вялікая яго любоў да родных людзей — партызан, што ў яго хапае сілы на подзвіг.

Учынкі і рухі душы старога Лагуцькі раскрыты пераканальна, лагічна. Перажыванні яго псіхалагічна абгрунтаваны.

Апавяданне гэтае дазваляе думаць, што Іван Сіняўскі пойдзе па шляху сапраўдных творчых пошукаў, па тым шляху, дзе толькі і можна чакаць поспеху.

**М. СТАЛЯРОЎ.**

Іван Сіняўскі. «Ой рэчанька, рэчанька...» Апавяданні. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Рэдакцыя мастацкай літаратуры. Мінск, 1962.

Мікола АЛТУХОЎ




**Малады фельетаніст Сяргей, які стаміўся займацца адмоўнымі з'явамі жыцця, знаёміцца з настаўніцай Ірынай Пятроўнай Грыбавай, чалавекам бездакорнай чысціні. Але яго школьны таварыш, каб зваліць Грыбаву «з п'едэстала», выстаўляе супраць яе цяжкае абвінавачванне. Вялікую душэўную драму перажывае Грыбава. Аднак яна верыць у людзей. Сяргей, які перажыў страшэннае расчараванне, вывучае дакументы і, нарэшце, дакопваецца да праўды. Гэта і ёсць галоўны змест п'есы М. Алтухова «Без п'едэстала», фрагменты з якой мы друкуем сёння.**

Пакой. Сяргей сядзіць за сталом, піша на машынцы. Насуплены, чымсьці незадаволены. Злосна прыкусіў губу, устаў і, закурыўшы, сярдзіта захадзіў па пакоі.

Стук у дзверы.

СЯРГЕЙ *(рэзка, як стрэл)*. Ну!

Уваходзіць Іван.

ІВАН. Не чакаў?

СЯРГЕЙ. А, Іван...

Вітаюцца.

ІВАН. Непрыемнасці?

СЯРГЕЙ. Надакучыла!..

ІВАН *(кіўнуўшы на пісьмовы стол)*. Гэта?

СЯРГЕЙ. Корпацца на сметніках абрыдла! Ты не зразумееш. Стаміўся я, Іван... Столькі рознай нечысці — не ўмяшчае галава. Ды і факты дробныя. Стаміўся я... Мо сутыкнешся з чымсьці цікавейшым — падкажы.

ІВАН. Добра. *(Агледзеўся)*. А ты няблага ўладкаваўся. Самастойна! Твае бацькі нават меней сварыцца сталі, калі ты з'ехаў.

СЯРГЕЙ. Не з-за мяне ў іх...

ІВАН. Ведаю. Проста нецікава красамоўствам займацца, калі ніхто не чуе. *(Нешта ўспомніўшы)*. Можна — я пазваню?

СЯРГЕЙ. Звані.

Іван падыходзіць да тэлефона, набірае нумар. Некаторы час слухае, а пасля расчаравана, не сказаўшы ні слова, кладзе трубку.

ІВАН *(абы што-небудзь сказаць)*. А я не ўяўляю сябе старым халасцяком.

СЯРГЕЙ *(іранічна)*. Ну-ну.

ІВАН *(паглядзеў на тэлефон)*. Не пашанцавала...

СЯРГЕЙ. Не прывык?

ІВАН. Разумееш, харошая, брат, дзяўчына... Вышэйшага гатунку! *(Прапануе папяросы.)* Куры.

СЯРГЕЙ *(закурвае)*. Ну-ну.

ІВАН. Разумная, прыгожая, чыстая...

СЯРГЕЙ. А папяросы ў цябе таксама вышэйшага гатунку.

ІВАН. Не, без пошласці. Светлая, брат... Сам не верыў, але... факт.

СЯРГЕЙ. Няма дома, значыць. Пасядзі, пазней пазвоніш.

ІВАН. Можа і дома. Толькі без іроніі, добра? Разумееш, да тэлефона падышла маці. Я не захацеў назваць сябе.

СЯРГЕЙ. Не сышліся характарамі.

ІВАН. Перашкода нумар адзін.

СЯРГЕЙ *(ранейшым тонам)*. Не прывык?

ІВАН. Ты не зважай на гэта — вышэйшы гатунак і ўсё такое. Словы — глупства. Я на Святлану гляджу чыстымі вачыма.

СЯРГЕЙ. Цёшча — працаўнік люты.

ІВАН. Ды яшчэ якая цёшча!.. Фігура, брат! Каб перамагчы такую, трэба быць тытанам.

СЯРГЕЙ. А не прайдзісветам?

ІВАН *(весела)*. Або прайдзісветам.

СЯРГЕЙ. Ну-ну.

ІВАН. Нейкая... занадта святая. Разумееш, гляджу на яе і думаю: не можа быць, што ты такая чысценькая. А падкапацца не магу. Ніхто не можа! Сэрцам чую — не можа быць! Няма людзей без плямачак. Нудныя яны. Нейкія стэрыльныя.

СЯРГЕЙ. А якая табе, уласна кажучы, розніца? Завіхаешся ты каля дачкі ці каля цёшчы?

ІВАН. О, розніца ёсць! Каб яе неяк асадзіць, прынізіць... Разумееш, не перашкаджала б...

СЯРГЕЙ. Калі хочаш атрымаць характарыстыку чалавека з адмоўнага боку, распытвай не сяброў, а ворагаў яго.

ІВАН. А што ты думаеш! Ідэя!

СЯРГЕЙ *(сурова)*. Ну-ну.

ІВАН. Зрэшты, паглядзім.

СЯРГЕЙ. Віншую, безнадзейна закаханы! Зрэшты, не веру я табе, Іван. Астынеш гэтак жа хутка, як і загарэўся. Не першы раз.

ІВАН. Не, гэта значна сур'ёзней...

СЯРГЕЙ. Не веру! *(Глуха)*. Я нікому не веру. Сабе часам — таксама.

ІВАН *(ускідвае бровы)*?..

СЯРГЕЙ. Ты дзіцячы ўрач...

ІВАН *(смяецца)*. Дапусцім.

СЯРГЕЙ *(не прымаючы жартаўлівага тону)*. Перад табою штодзённа — чыстыя, не паспеўшыя награшыць вочы. Чыстыя, брат! А я — страшыдла для абывацеляў. Цьфу! Перада мною — жулікі, бюракраты, ззадніцы, даносчыкі, пляткаркі. Памыі, брат! Не бачу чыстых людзей. *(З гарычшу.)* А дзе яны... зусім чыстыя?..

ІВАН. Хандра. Глупства. Пройдзе.

СЯРГЕЙ. Не праходзіць, Іван. Пішу фельетон. Пра аднаго машэнніка. Эх, каб ты яго ўбачыў!.. Паглядны, масціты мужчына, з высакароднай сівізной на скронях. Я такім заўжды месца ў трамваі саступаў. *(Жорстка.)* Жулік!

ІВАН. Ну і чорт з ім!

СЯРГЕЙ. Мне так хацелася пераканацца, што памыляюся... Не, жулік. Хочацца верыць людзям, Іван, а яны... І чым бруднейшы чалавек, тым чысцейшым хоча здавацца.

ІВАН. Нічога не зробіш — такі ўжо чалавек.

СЯРГЕЙ. Няпраўда. Чалавек нараджаецца голы. І памірае голы. Падумай — толькі двойчы ён бывае па-сапраўднаму праўдзівы. А ўсё жыццё хаваецца пад рознымі вопраткамі, маскамі, шэльма!

ІВАН. Ну, ведаеш...

СЯРГЕЙ. Што — нетры філасофіі? Ведаю, брат. А чалавек усё жыццё павінен адчуваць сябе маральна голым. Чысціні няма чаго сароміцца.

ІВАН. Гэта ў цябе прафесіянальнае, павер. Ты адарваўся ад жыцця, ты бачыш яго толькі з аднаго боку, ты стаміўся, зачарствеў. З'ездзі да мора, на сонейка...

СЯРГЕЙ. Што ж, пачарнее не толькі душа, а і скура.

ІВАН. Ну, паспрабуй пісаць нарысы, апавяданні, вершы.

СЯРГЕЙ. Сказаў — вершы! Ведаю аднаго такога... дыфірамбіста. Расхвальвае сваю жонку, як крамнік.

ІВАН. Хандра, Сярожа. Скончыцца і...

СЯРГЕЙ. Калі? Стаміўся я... Хочаш каньяку?

ІВАН. Як гэта? Ін віно верытас? Не, не магу. Святланіна маці і так усіх д'яблаў на маю шыю вешае, а калі пачуе пах спіртнога... Які козыр, разумееш!

СЯРГЕЙ. А напалохала яна цябе... *(Налівае кілішак, выпівае)*.

ІВАН. Не баюся, Сяргей. Лавірую. Жанчына яна, зрэшты, несакрушальная. Схіляю галаву.

СЯРГЕЙ. Ненавіджу ідалапаклоннікаў.

ІВАН. Не, сапраўды дастойная жанчына.

СЯРГЕЙ. Як хочаш. Для поўнай яснасці пагавары з суседзямі або з пакрыўджанымі ёю. Калі гэтыя схіляць перад ёю галаву — капітулюруй.

ІВАН. Можна — я яшчэ пазваню?

СЯРГЕЙ *(дапівае кілішак)*. За тое, каб цёшчы не было дома!

Парк.

Прагульваюцца Сяргей і Іван.

Змяркаецца.

СЯРГЕЙ. Чалавеку п'едэстал непатрэбны. Плошча, недастойная чалавека. Надакучыць узбірацца і злазіць. Для чалавека ўся зямля павінна быць п'едэсталам.

ІВАН. Кінь! Як у цябе галава не лопне? Грызеш сябе, выматваеш...

СЯРГЕЙ. Кропка, Іван. Пішу нарыс.

ІВАН. Тэму знайшоў?

СЯРГЕЙ. Знайшоў чалавека!

ІВАН. Віншую.

СЯРГЕЙ. Высветлілася — гранічна проста. Раней важдаўся з жулікамі, і пачало здавацца, што навокал — адны жулікі. Відаць, піўвару здаецца, што ўвесь свет пахне півам.

ІВАН *(агледзеўся)*. Нешта Святлана затрымліваецца.

СЯРГЕЙ. Глядзі — якое ружовае неба!.. Ружовае без ружовых акуляраў. Здарава!

ІВАН. Другая крайнасць — ідэалізацыя. Глядзі, узнімеш чалавека да нябёсаў, а потым загрыміш з ім разам на грэшную зямлю. Самае горшае — расчараванне.

СЯРГЕЙ. Ты што, не ў гуморы?

ІВАН *(убок)*. Сказаць яму пра Святланіну маці? Пра Грыбаву? Я даведаўся, я раскапаў... Можа, прыціхне старая? *(Сяргею)*. А фельетоны будзеш пісаць?

СЯРГЕЙ. Не.

ІВАН. А ў мяне наклёўваецца адна тэмка.

СЯРГЕЙ. Да д'ябла!.

ІВАН *(убок)*. Не, прыберагу на крайні выпадак.

СЯРГЕЙ. Дзе ж твае прыгажуні?

ІВАН. Не іранізуй, калі ласка. Дзяўчаты не ардынарныя. Прыйдуць.

СЯРГЕЙ. Зайздрошчу табе, Іван.

ІВАН. Рана. Яшчэ не дабіўся ўзаемнасці.

СЯРГЕЙ. Даб'ешся. Ты — даб'ешся. Зайздрошчу.

ІВАН. А ты... ніколі не кахаў?

СЯРГЕЙ *(са смехам)*. У школе, у сёмым класе. За косы цягаў, каб звярнуць на сябе ўвагу. А баяўся.

ІВАН. Дзівак!

СЯРГЕЙ. Застацца з ёю сам-насам баяўся.

ІВАН. Гм...

СЯРГЕЙ. А хочацца кахаць... Эх, каб быў у чалавека на грудзях гэткі пераключальнік! Павярнуў управа — пуста, улева — каханне...

ІВАН. Каб быў!

СЯРГЕЙ. Відаць, бог, ствараючы чалавека, нешта наблытаў у чарцяжах.

ІВАН. Ён не меў вышэйшай адукацыі.

СЯРГЕЙ. Ну-ну.

ІВАН *(углядаецца ўдалячынь)*. Здаецца, ідуць... Забягу, вазьму марожанага. Табе ўзяць?

СЯРГЕЙ. Абавязкова.

Іван выходзіць. З'яўляецца Святлана. Іх позіркі сустрэліся. Няёмкая пауза. Вяртаецца Іван.

ІВАН. Адна?

СВЯТЛАНА. Сяброўка захварэла. Мігрэнь.

ІВАН. Шкада...

СВЯТЛАНА *(іранічна)*. Не захацела выручыць.

ІВАН. Пазнаёмцеся, калі ласка.

СЯРГЕЙ. Сяргей.

СВЯТЛАНА. Святлана. *(Сяргею.)* Чаму вы не сказалі—«вельмі прыемна»?

СЯРГЕЙ *(сумеўся)*. Бо мне сапраўды прыемна...

СВЯТЛАНА. Гэта для вас прызначалася мая сяброўка?

СЯРГЕЙ. Для мяне.

СВЯТЛАНА. Дурніца, што захварэла.

ІВАН *(раздае марожанае)*. А каму чацвёртую порцыю?

СВЯТЛАНА. Аддайце каму-небудзь з хлапчукоў.

ІВАН. Ідэя! *(Выходзіць.)*

Хтосьці за сцэнай спявае:

Над ракою
Пад вярбою
Абняліся двое,
А над імі,
Маладымі,
Неба веснавое...

СВЯТЛАНА. Ззянне месяца навявае сум. Праўда?

СЯРГЕЙ. Калі як...

СВЯТЛАНА. А мне — весела...

Ціха ўступае скрыпка.

СЯРГЕЙ. Маладосць...

СВЯТЛАНА. Колькі вам год?

СЯРГЕЙ. А вам?

СВЯТЛАНА. Арыгінальна! Жанчыны, музыка і віно ўзросту не маюць.

СЯРГЕЙ. Захапляецеся французамі?

СВЯТЛАНА. Пачытваю.

А скрыпка выводзіць трапяткую, пяшчотную, крыху трывожную мелодыю.

СЯРГЕЙ. Скажыце, я не лішні сягоння?

СВЯТЛАНА. Хочаце знікнуць?

СЯРГЕЙ. Дзе два...

СВЯТЛАНА. Вялікадушна. Але недарэчна.

СЯРГЕЙ. Як хочаце...

СВЯТЛАНА. Не спяшайцеся, а то і марожаным можна падавіцца.

СЯРГЕЙ. Нешта горача...

СВЯТЛАНА. Націскайце на марожанае. Пры маторах існуюць радыятары. Для ахаладжэння. *(Раптам.)* Сэрца — таксама матор?

СЯРГЕЙ. Насос.

На іх нападае беспрычынны, жыццярадасны смех.

СВЯТЛАНА. Паэтычная размова, праўда?

СЯРГЕЙ. Вельмі.

Уваходзіць Іван. Пільна прыглядаецца да Святланы і Сяргея, прыслухоўваючыся да светлай мелодыі, якую выводзіць скрыпка, і раптам робіцца нібы ніжэйшы ростам.

СВЯТЛАНА *(Івану)*. Знайшоўся хлапчук?

ІВАН *(горка)*. Знайшоўся...

Зацямненне.

Працэніум.

ІВАН. Іншы раз чалавек гляне — і нібы маналог выпаліў. Адзін позірк!.. Размова вачэй, як песня без слоў... Адзін позірк! Навошта я пазнаёміў іх?.. А праз дзень яны сустрэліся без мяне.

Зацямненне.

Парк.

На лавачцы Святлана і Сяргей.

СВЯТЛАНА. Вы нічога не расказваеце пра сябе. Я нават не ведаю, як ваша прозвішча.

СЯРГЕЙ. Калі даведаецеся — пачырванееце.

СВЯТЛАНА. О!..

СЯРГЕЙ. Дрэнную мянушку насілі мае невядомыя продкі. Відаць, чырвонарыжыя былі.

СВЯТЛАНА. Толькі і ўсяго...

СЯРГЕЙ. Вы думалі, пачырванееце з-за таго, што я недзе набедакурыў? Не, не паспеў.

СВЯТЛАНА *(раптам, вельмі сур'ёзна)*. А вы можаце набедакурыць...

А за сцэнай хтосьці спявае агністую песню пра каханне.

СЯРГЕЙ. Ведаеце, мне чамусьці здаецца, што я несмяротны.

СВЯТЛАНА. А вы яшчэ і хвалько.

СЯРГЕЙ. Лёс, калі ён справядлівы, павінен удзяліць нам яшчэ па сто год.

СВЯТЛАНА. А ён справядлівы?

СЯРГЕЙ *(з былым сарказмам)*. Смерць — дурная. Таму дурні жывуць больш за разумных. Сваіх смерць не чапае. З салідарнасці.

СВЯТЛАНА. А вы калючы...

СЯРГЕЙ. Скажыце, чаму мужчыну бывае цяжка вымавіць тры словы... ну, тыя, пра каханне...

СВЯТЛАНА. А вам даводзілася вымаўляць... тры словы?

СЯРГЕЙ. О, многа разоў!

СВЯТЛАНА *(засмяялася)*. Вы сціплы чалавек.

СЯРГЕЙ. Не зусім.

СВЯТЛАНА. А я не веру вам.

СЯРГЕЙ. Правільна робіце.

Уваходзіць Іван.

ІВАН. Я затрымаўся, Святлана. Даруйце за спазненне.

СВЯТЛАНА. А калі не дарую?

ІВАН. Складаны клінічны выпадак... Спазніўся...

СВЯТЛАНА. Вы вельмі спазніліся, Іван...

Іван варожа глядзіць на Сяргея.

СЯРГЕЙ. Пойдзем, пакатаемся на каруселі.

Уваходзіць цёця Юля, вельмі спяшаецца.

СВЯТЛАНА. Цёця Юля, хочацца пакатацца на каруселі?

ЦЕЦЯ ЮЛЯ. Ірачцы дрэнна... Сардэчны прыступ...

СВЯТЛАНА *(занепакоілася)*. Вы ў аптэку?

ЦЕЦЯ ЮЛЯ. Нічога, я хуценька...

СВЯТЛАНА. Трэці прыступ... *(Хлопцам.)* Даруйце, я дамоў...

ІВАН. Я ўрач, Святлана. Дазвольце, і я...

ЦЕЦЯ ЮЛЯ. Урач прыехаў. Ён паслаў мяне з рэцэптам. Прыехаў.

СВЯТЛАНА. Не трэба, Іван. Акрамя таго, мама не даверае вам. Я пабегла. Бывайце. *(Выходзіць)*.

СЯРГЕЙ *(Івану)*. Можа, замест старой збегаем у аптэку?

ІВАН. Думаеш прабрацца ў дом? Не варта.

Цёця Юля выходзіць.

СЯРГЕЙ. Яе маці падобна да яе?

ІВАН. Святлана не называла сваё прозвішча?

СЯРГЕЙ. Не. А што?

ІВАН. Нічога. Гэткія прыступы для яе — штука прывычная.

СЯРГЕЙ. Што ж, пойдзем на карусель.

ІВАН. Позна.

СЯРГЕЙ. Хочацца набедакурыць. Або давай прыкінемся п'янымі. Нас даставяць у працвярэзнік, пад халодны душ... Га? Цудоўная вынаходка — халодны душ!

ІВАН *(сурова)*. Хочаш — дам тэму для фельетона?

СЯРГЕЙ. Да д'ябла!

ІВАН. Вельмі інтрыгуючая гісторыя. Настаўніца Ірына Пятроўна Грыбава...

СЯРГЕЙ. Што?!.

ІВАН. Не мае права працаваць настаўніцай.

СЯРГЕЙ. Брэшаш! Тая, пра каго я пішу нарыс?!.

ІВАН. Яна скрывае, што працавала пры немцах перакладчыцай.

СЯРГЕЙ *(яшчэ не зусім усведамляючы, што здарылася)*. Халодны душ...

Зацямненне.

**СПЫТАЙ У КНІГАРНІ**

## ПЕСНЯ БАЯВОЙ МАЛАДОСЦІ

У самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны, у 1941 годзе, паў смерцю храбрых пад Гомелем Андрэй Ушакоў. Не стала паэта, але засталася жыць яго баявая песня, яго вершы, поўныя маладога жыццесцвярджальнага запалу.

Пазнаём людзей па
іхніх справах,
Мы сябры на фронце
барацьбы.
Толькі нам дае эпоха права
Сэрцам вечна маладымі быць.

Бо у новай працы ў нас вырастае
Сіла радасці і маладосць.
І кладу я на касцёр сяброўства
Два дзесяткі пройдзеных гадоў.

А. Ушакоў паспеў выдаць за сваё нядоўгае жыццё некалькі паэтычных зборнікаў — «Зарыва вагранак», «Праца і маладосць», «Голас Радзімы» і інш. Усё лепшае з гэтай спадчыны паэта і склала кнігу «Наша маладосць», якая з'явілася толькі што ў кнігарнях рэспублікі.

Адкрываецца яна прадмовай паэта Аляксея Зарыцкага. Ён сустракаўся з А. Ушаковым, добра ведаў яго, — і прадмова напісана па-сяброўску цёпла, пранікнёна. Заканчваецца яна словамі: «Андрэй Ушакоў пры жыцці быў другам многіх. Няхай жа цяпер многім і многім чытачам будзе другам гэты яго зборнік, у якім сабрана ўсё лепшае з таго, што ён паспеў стварыць за сваё кароткае жыццё.»

*Рэспубліканскае Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў выдала брашуру Ул. М. Казберука «Якуб Колас». У брашуры, разлічанай на шырокае кола чытачоў, расказваецца аб жыццёвым і творчым шляху народнага паэта Беларусі, 80 год з дня нараджэння якога спаўняецца сёлета.*

# ВАЧЫМА ДЗЯЦЕЙ

Сёлетні год досыць ураджайны на зборнікі дзіцячых вершаў. Сярод іх — і новая кніжка Паўлюка Пранузы.

Думаецца, што юныя чытачы ўжо ведаюць гэтага аўтара, запомнілі такія яго ранейшыя вершы, як «Ручаёк», «Сяброўкі», «На катку». І вось яны сустрэліся з ім зноў.

Многія вершы новай кніжкі П. Пранузы напісаны з добрай выдумкай, без надакучлівага маралізатарства. Узяць хоць бы верш «Піша літару Марына». Тэму для верша П. Прануза ўзяў, як кажуць, на паверхні, самую будзённую. Дзяўчынка піша літару. Не вельмі даецца яна ёй спачатку: то не можа ўстаяць, то заходзіць за лінейку. Усё ж дзяўчынка дамаглася свайго, — літара робіцца такой, як трэба.

Чытаючы такія вершы, як «На лузе», «Я малюю вясну», «Наташына каша», «Вось які дзівак», «Апетыт знік у Рыгоркі», «Расхрабрыўся Аляксей», «Мыла», «Натка ў агарод зайшла», прыходзіш да думкі, што іх напісаў чалавек, які ўмее глядзець на рэчы вачыма дзяцей, ведае іх псіхалогію.

Узяла Галінка мыла
І два вочкі ў ім зрабіла.

— А нашто? — спытала мама.
— А каб бачыла, дзе пляма.

Вельмі неабходны дзіцячай паэзіі гумар і добрая ўсмешка. Яны ёсць у такіх вершах, як «Натка ў агарод зайшла», «Пчала» і інш. Хочацца прывесці поўнасцю верш «Натка ў агарод зайшла».

Натка ў агарод зайшла
Пашукаць гурочкаў,
Узяла адзін, а ён
З тоненькім шнурочкам.

— Што за дзіва на градзе? —
Запытала Натка, —
Хто гурочкі прывязаў
Моцна так да градкі?

Не пазбаўлена кніжка «Я вясну малюю» і недахопаў. Паэтычная ж навізна — гэта і адкрыццё новых тэм, новы, прадыктаваны своеасаблівасцю часу, падыход да іх вырашэння. На жаль, паэт піша часам так, як быццам бы ў дзіцячай паэзіі можна абысціся і старымі тэмамі, старымі прыёмамі і вобразамі.

Сустракаецца ў П. Пранузы і тое сумнае апісальніцтва, якое не робіць гонару вершам. Вось, калі ласка:

Нам не сумна на двары:
Мы і цеслі, і майстры,

Віця, Пеця, Міна, Янка
Захапіліся альтанкай.

Збудавалі, як на дзіва,
Вінаградам абсадзілі.

У такім тэмпе можна працягваць верш колькі хочаш і калі ўздумаецца паставіць кропку.

Але справа не ў хібах зборніка, а ў тым лепшым, што ёсць у ім і што, безумоўна, парадуе юнага чытача.

**М. КАЦЮШЫН.**

Паўлюк Прануза. «Я вясну малюю». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1962.

## ЗДАБЫТАК ТРОХ НАРОДАЎ

**Гэты слоўнік — першае выданне падобнага роду. Ён ставіць сваёй мэтай — даць неабходныя звесткі і бібліяграфічныя даведкі аб рускай, украінскай і беларускай пісьменнасці і літаратуры за X—XVII стагоддзі.**

**«Старажытная пісьменнасць да XIV—XV в. в. — піша ў прадмове да слоўніка аўтар яго І. У. Будоўніц, — з'яўляецца агульным дасягненнем рускага, украінскага і беларускага народаў. Пэўныя гістарычныя ўмовы, у выніку якіх са старажытнарускай народнасці выдзеліліся ўкраінскі і беларускі народы, прывялі да ўзнікнення самастойных літаратур ва ўкраінцаў і беларусаў. Нягледзячы на штучныя бар'еры паміж братнімі народамі, створаныя цяжкімі ўмовамі гістарычнага жыцця, цесныя сувязі паміж іх літаратурамі ніколі не спыняліся і асабліва ўзмацніліся з сярэдзіны XVII стагоддзя, пасля ўз'яднання Украіны і Беларусі з Расіяй. Усё гэта апраўдвае аб'яднанне ў адным слоўніку помнікаў рускай, украінскай і беларускай літаратуры і пісьменнасці».**

**Слоўнік старажытнай пісьменнасці трох братніх народаў ахоплівае вялікі час — з пачатку старажытнарускай пісьменнасці па XVII стагоддзе ўключна. У ім прыводзяцца перш за ўсё назвы літаратурных твораў самага рознага характару, імёны іх аўтараў (або перакладчыкаў), важнейшыя помнікі старажытнага права, розныя віды актавага матэрыялу (граматы), спісы рукапісных збораў і г. д.**

**У слоўніку можна знайсці таксама кароткія характарыстыкі рускіх, украінскіх і беларускіх дзеячоў, якія так або інакш былі звязаны з пісьменнасцю і старадрукарскай кніжнасцю. Аб Сымоне Будным, напрыклад, сказана, што ён — беларускі пісьменнік ерэтык, прыхільнік рэфармацыі, аўтар Катэхізіса і твора «Аб апраўданні грэшнага чалавека перад богам» (XVI ст.) і г. д.**

**Няма сумнення, што «Слоўнік рускай, украінскай і беларускай пісьменнасці і літаратуры» знойдзе свайго чытача, саслужыць добрую службу не толькі вучоным, літаратуразнаўцам, лінгвістам, фалькларыстам, гісторыкам, а ўсім тым, хто цікавіцца старажытнай літаратурай.**

**І. ГРЫНЬ.**

І. У. Будоўніц. «Слоўнік рускай, украінскай, беларускай пісьменнасці і літаратуры (да XVII стагоддзя)». Выдавецтва Акадэміі навук СССР, Масква, 1962.

**Беларускаму чытачу добра вядомы раман Івана Пташнікава «Чакай у далёкіх Грынях». Ён друкаваўся ў свой час у часопісе «Маладосць», а нядаўна выйшаў асобным выданнем у Дзяржаўным выдавецтве БССР.**

**Дзеянне рамана адбываецца ў нашы дні, героі яго — нашы сучаснікі: працаўнікі вёскі, настаўнікі, студэнты, медыцынскія работнікі. Асноўную ўвагу аўтар удзяляе сённяшняму дню калгаснай вёскі, яе людзям. У рамане нямала яркіх запамінальных малюнкаў калгаснага жыцця, каларытных сцэн сельскага побыту.**

**Галоўная гераіня рамана Галіна Рудзько, якая пасля заканчэння медыцынскага тэхнікума прыязджае на працу ў сельскую бальніцу. У вобразе Галіны ўвасоблены лепшыя рысы нашага маладога сучасніка — адданасць агульнай справе, высакароднасць, маральная чысціня.**

**Ілюстрацыі да рамана зроблены мастаком М. Савіцкім. Большасць з іх добра дапаўняюць і раскрываюць тэкст рамана. Два малюнкі мы і ўзнаўляем на здымках, якія вы бачыце.**

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшлі з друку і паступілі ў продаж наступныя кнігі мастацкай, дзіцячай і музычнай літаратуры:

**Антон Бялевіч.** Тарасікава дарожка. Паэма і вершы. Для сярэдняга ўзросту. Мастак Ул. Рамейка. Тыраж 8 тыс. экз. стар. 80. Цана 9 кап.

**Уладзімір Дубоўка.** Мілавіца. Казкі. На рускай мове. Для малодшага ўзросту. Аўтарызаваны пераклад з беларускай мовы. Мастак В. Варанецкі. Тыраж 50 тыс. экз., стар. 192. Цана 37 кап.

**Раман Раманаў.** Усім смярцям на злосць. Рамантычная драма ў 3-х дзеях. На рускай мове. Мастак І. Капялян. Тыраж 1 600 экз., стар. 80. Цана 14 кап.

**М. Салтыкоў-Шчадрын.** Пашахонская старына. На рускай мове. Мастак Б. Басаў. Тыраж 30 тыс. экз., стар. 556. Цана 86 кап.

# ТАМ, ДЗЕ ЧЫРВОНЫЯ ПЯСКІ...

*З блакнота пісьменніка*



Мне двойчы давялося быць у Сярэдняй Азіі. Першы раз — у складзе беларускай маладзёжнай дэлегацыі. З Ташкента мы тады накіраваліся ў Галодны стэп. Паездка зрабіла вялікае ўражанне. Але, вядома, з дэлегацыяй не ўсё як след разгледзіш, не ўсё зразумееш... І я надумаў вярнуцца ў гэтыя спякотныя мясціны яшчэ раз, самастойна.

І вось — я зноў у прыгожым горадзе Ташкенце. Маршрут абраны самы цяжкі і незвычайны: Самарканд — Бухара — Тамды-Булак — Тахта-Купыр—Нукус — паўвостраў Муйнак. Адсюль параходам праз Аральскае мора і з Аральска — чыгункай да Масквы. На шляху ляжала другое мора, больш небяспечнае — выпаленыя сонцам чырвоныя пяскі пустыні Кызыл-Кум. Давялося перасаджвацца з самалёта на вярблюдаў, ісці па барханах пешшу, чакаць каля рэдкіх калодзежаў падарожнага транспарту.

Нам, людзям нязвыклым з пустыняй, яна здавалася напаленай патэльняй. Якое тут можа быць жыццё, калі нават змяя-гюрза, апынуўшыся на сонцы, праз некалькі хвілін памірае?.. Але ў пустыні жывуць людзі. Мужныя і гасцінныя людзі, якія робяць вялікую і карысную справу: адны гадуюць незлічоныя атары каракульскіх авечак, другія шукаюць карысныя выкапні, трэція ўзводзяць сярод пустыні новыя гарады, садзяць сады...

Найбольш блізка мы пазнаёміліся з жыццём казахаў-жывёлаводаў. Ім, людзям геpaічнай працы, прысвячаецца кніга, якая неўзабаве будзе напісана.

У працяглай дарозе не бывае без непрыемнасцей. У самым пачатку падарожжа па пустыні сапсаваўся фотаапарат, на які мы ўскладалі вялікія надзеі. Давялося ўспомніць, што некалі я меўся быць мастаком.

Вось некаторыя малюнкі.

1. Хто б сказаў, што гэтая маладая з выгляду, вясёлая казашка мае ўнукаў? Муж яе быў правадніком у вядомага даследвальніка пустынь акадэміка Ферсмана. А сярэдні сын — Умерзах павядзе зараз у пустыню нас. Муж быў непісьменны, а сын вучыцца ва універсітэце і піша вершы...

2. Нялёгка даецца вада ў пустыні. Калодзежы глыбокія — у большасці ад 45 да 70 метраў. Стужкавыя агрэгаты не ўсюды яшчэ ёсць. А вады трэба шмат — у кожнай атары не менш 600 авечак. І поюць іх два разы на дзень. Інакш не вытрымаюць спёкі.

...Калодзеж Агыз, што ў перакладзе значыць «Бык». Хутка бацька — старэйшы чабан прыгоніць з пашы атару. І дзяўчынка памагае трабу — малодшаму чабану нарыхтаваць ваду. А першага верасня яна пайшла далёка адсюль, у раённы цэнтр, каб вучыцца ў школе-інтэрнаце.



3. — Не бойцеся! — гаворыць Алі, сын калгаснага парторга. — Сабачка не кусаецца...

Як і кожны жыхар пустыні, Алі рад новым людзям.

4. Гэтаму аксакалу 85 год. Але ён яшчэ не адчувае сябе старым. Узяўшы кабыз (музычны інструмент), некалькі праснакоў і трошкі вады, ён выпраўляецца ў госці да суседа. 150—200 кіламетраў няўзнак жыхару пустыні, калі ён вязе суседзям новую песню. А ў кожнай юрце прымаюць старога кабызіста і жартаўніка як самага блізкага і дарагога чалавека...



5. Мы амаль не чулі ў юртах дзіцячага плачу. Дзеці тут растуць дужыя, загартаваныя, самастойныя. Не любіць пускаць слязу і гэты васьмімесячны малец, малодшы сын Сайрана, начальніка пашпартнага стала ў Тамды-Булаку. Але яго пакрыўдзіла муха. Вялікая зялёная муха. Яна ўсё дакучала яму, спрабуючы сесці на нос. Малы хацеў расправіцца з ёю. А яна паляцела з юрты. І тут «батыр» не вытрымаў — заплакаў... Бацька зняў са сцяны дамбру і, даўшы канец яе хлопчыку ў рот, як соску, зайграў простую стэпавую мелодыю. Малы прыслухаўся і перастаў плакаць.

6. У Тахта-Купырскім раёне ў нас змяніўся праваднік і перакладчык. Ім стаў Мухтар Абдулаеў, галоўны заатэхнік саўгаса імя Карла Маркса. Мы вельмі пасябравалі з гэтым цудоўным чалавекам, шчырым і дасціпным.

Скончыўшы сельскагаспадарчы інстытут у Самаркандзе, Мухтар пайшоў у армію. Жыццё ў вялікім горадзе спадабалася яму. Ён напісаў пра гэта бацьку, просячы дазволу застацца.

— Хочаш жыць у горадзе, зрабі так, каб наш саўгас ператварыўся ў горад, — адказаў яму бацька, стары бальшавік, адзін з арганізатараў першых калектыўных гаспадарак у пустыні.

І Мухтар вярнуўся.



Заатэхнік улюбёны ў сваю справу. Дабраўшыся разам з намі да далёкай адгоннай пашы ля высахлага рэчышча Жана-Дар'і (кіламетраў 600 ад цэнтральнай сядзібы), ён адразу звязаўся па радыё з другімі адгонамі...

У старога Атагула акрамя Мухтара яшчэ сем дарослых дзяцей. Усе атрымалі вышэйшую адукацыю. І ўсе засталіся працаваць у роднай пустыні.

Яна расквітнее — пустыня! Людзі, якія жывуць і працуюць тут, умеюць марыць, умеюць здзяйсняць свае мары. Яны здольны сваімі рукамі стварыць на зямлі цуд.

Пра гэта і хочацца расказаць у кнізе.

**Артур ВОЛЬСКІ.**

# ТУРЫЗМУ—ШЫРОКУЮ ДАРОГУ

**Падручнікі геаграфіі канстатуюць:**

**...лясы займаюць каля адной трэці тэрыторыі Беларусі;**

**...калі злучыць усе рэкі рэспублікі ў адну, даўжыня яе складзе каля 50 тысяч кіламетраў і яна можа абвіць зямны шар па экватару;**

**...у Беларусі да 4 тысяч азёр, многія з якіх злучаны паміж сабой рэчкамі і пратокамі.**

**Рэспубліка наша нібы створана для турысцкіх паходаў. Яна славіцца сваімі лясамі і пушчамі, азёрамі і рэкамі, гістарычнымі месцамі і помнікамі культуры. Цяжка падлічыць, колькі пабывала ў нас за лета гасцей з братніх рэспублік, з-за мяжы.**

**Многа ў нас і сваіх турыстаў. Ёсць на Мінскім гадзіннікавым заводзе калектыў, слава аб якім ужо ідзе па ўсёй рэспубліцы. Звыш 70 юнакоў і дзяўчат аб'ядналіся для паходаў, для вывучэння роднага краю, адпачынку на ўлонні прыроды. Амаль усе выхадныя дні праводзяць яны за горадам, у лясах, на берагах азёр і рэк. Многія сцежкі захавалі сляды маладых рабочых, у многіх сёлах памятаюць канцэрты, якія давалі вясёлыя падарожнікі з гадзіннікавага...**

**Актыўна дзейнічаюць турысцкія калектывы таксама на радыёзаводзе, электратэхнічным заводзе, у політэхнічным інстытуце, «Белдзяржпраекце», на Аршанскім ільнокамбінаце.**

**Але ўсё гэта — падарожнікі арганізаваныя. Ёсць і «самадзейныя» турысты. Відавочна, да іх трэба аднесці сям'ю галоўнага мастака Тэатра оперы і балета Я. Чамадурава. Кожнае лета гэтая сям'я на месяц адпраўляецца ў падарожжа па родных мясцінах. З кожнай сваёй паездкі Чамадуравы робяць кароткаметражны аматарскі фільм.**

**З кожным годам расце ў нас колькасць людзей, якія вось так — у паходах, плаваннях знаёмяцца з родным краем, вывучаюць яго. Лагер на лясной паляне, касцёр на беразе ціхага возера, узыход сонца ў полі — хіба гэта не рамантыка?**

**Кожны турыст — гэта адначасова і даследчык, і прапагандыст. Многа, напрыклад, могуць даць турысцкія паходы студэнтам філалагічных і гістарычных факультэтаў, будучым мастакам, акцёрам, і як многа могуць даць яны самі, арганізуючы ў месцах адпачынку гутаркі, канцэрты, аказваючы дапамогу сельскім работнікам культуры.**

**На тэрыторыі Беларусі працуюць тры турысцкія базы. За сезон яны абслугоўваюць звыш шасці тысяч чалавек. Ёсць, акрамя таго, пастаянна дзеючы экскурсійны маршрут Мінск—Брэст—Белавежская пушча. Але для такой буйнай арганізацыі, як Беларускае рэспубліканскае экскурсійна-турысцкае ўпраўленне (днямі яно ператворана ў рэспубліканскі Савет па турызму), гэтага яўна недастаткова. Адна з турысцкіх баз размешчана пад Мінскам, дзве другія — на поўначы рэспублікі. Штучна аказалася абмежаванай, такім чынам, зона арганізаванага турызму, з яе выключаны ўвесь паўднёвы ўсход і паўднёвы захад рэспублікі. Работнікі ўпраўлення спрабуюць паправіць справу экскурсійным аўтобусным маршрутам, але што ён можа даць, калі ўжо ў маі чаргу на яго займаюць на верасень. За лета не ўдаецца задаволіць і палавіны заявак, якія паступаюць на арганізаваныя турысцкія паездкі.**

**Далёка не на ўсіх прадпрыемствах рэспублікі дзейнічаюць турысцкія секцыі, не ўсюды ёсць прасцейшае турысцкае абсталяванне, дрэнна вядзецца прапаганда турызму, няма рэкламы. Усё гэта перашкаджае турызму ў рэспубліцы.**

**Пастанова прэзідыума ВЦСПС аб далейшым развіцці турызму падкрэслівае важнасць перабудовы работы саветаў па турызму на грамадскіх асновах, неабходнасць умацавання сувязі з масамі.**

**У нашай рэспубліцы вялікія магчымасці для шырокага ўцягнення ў рады турыстаў рабочых і служачых, навучэнцаў. Ёсць шмат цікавых для турызму месц, добрыя ўмовы, трэба толькі іх умела выкарыстоўваць.**

**...Ідзе па лясных дарогах, уздоўж берагоў рэк і азёр, палявымі сцежкамі вясёлы чалавек з рукзаком за плячыма. Ён усюды дома, усюды свой, да ўсяго яму ёсць справа, бо ён гаспадар гэтай прасторы, любіць яе ўсёй душой. Шчаслівай жа табе дарогі, падарожнік! Не ведай стомы, даследчык роднай зямлі!**

**М. БАРЫСАЎ.**

## Для ўпрыгожання быту савецкіх людзей

Інкрустацыя саломкай — адзін са старадаўніх відаў беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якім добра авалодалі жлобінскія ўмельцы. З дапамогай скальпеля і кавалачкаў каляровай саломкі яны ствараюць выдатны беларускі арнамент, упрыгожваюць вырабы пейзажамі, у якіх па-майстэрску перадаюць багацце фарбаў роднай прыроды.

Пачынальнікам гэтай справы стаў настаўнік малявання М. В. Дзегцярэнка. Ён навучыў майстэрству інкрустацыі выпускніцу школы Зіну Лебедзеву. Цяпер яна сама распрацоўвае малюнкі, якія вызначаюцца арыгінальнасцю ўзораў, яркасцю фарбаў. Пад кіраўніцтвам вопытных майстроў майстэрствам інкрустацыі авалодвае моладзь—Зіна Коваль. Марыя Мінянкова, Жэня Тамкова і іншыя.

Прыгожыя, з пералівамі ўсіх колераў вясёлкі, шкатулкі жлобінскіх інкрустатараў атрымалі высокую ацэнку на выстаўках і кірмашах у Гане, Ліване, Сірыі, Польшчы, Канадзе.

У гэтым годзе Жлобінская фабрыка мастацкай інкрустацыі дасць для ўпрыгожання быту савецкіх людзей 30 тысяч мастацкіх вырабаў. БЕЛТА.

## А. П. ТЭЛІЧАН

23 верасня пасля цяжкай хваробы памёр старэйшы работнік тэатральнага мастацтва рэспублікі, дырэктар Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, член КПСС з 1928 года Аляксандр Пятровіч Тэлічан.

А. П. Тэлічан пачаў свой працоўны шлях у 1919 годзе батраком. З 1932 года, пасля заканчэння Ленінградскага тэатральнага інстытута, ён працаваў рэжысёрам у тэатрах Ленінграда, а з 1941 па 1946 год знаходзіўся на франтах Айчыннай вайны.

У пасляваенныя гады А. П. Тэлічан узначальваў Магілёўскі абласны драматычны тэатр, Беларускі дзяржаўны ордэна Леніна Вялікі тэатр оперы і балета, а з 1951 года — Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад высока ацанілі працоўную дзейнасць і ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне А. П. Тэлічана, узнагародзіўшы яго ордэнам Чырвонай Зоркі, двума ардэнамі «Знак Пашаны» і чатырма медалямі.

Сваю працоўную дзейнасць Аляксандр Пятровіч спалучаў з вялікай грамадскай работай, з'яўляючыся дэпутатам Мінскага гарадскога Савета.

А. П. Тэлічан пражыў 56 гадоў. Заўчасная смерць забрала яго ў росквіце сіл. Усе, хто ведаў гэтага працавітага, гранічна скромнага, сардэчнага чалавека, ніколі не забудуць яго светлы вобраз.

**Міністэрства культуры БССР.**
**Мінскі гарадскі Савет дэпутатаў працоўных.**
**Калектыў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.**
**Беларускае тэатральнае таварыства.**
**Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў культуры.**

**Міністэрства культуры БССР з глыбокім смуткам паведамляе аб заўчаснай смерці дырэктара Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ТЭЛІЧАНА Аляксандра Пятровіча і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

**Калектыў Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з глыбокім жалем паведамляе аб заўчаснай смерці дырэктара тэатра ТЭЛІЧАНА Аляксандра Пятровіча і выказвае глыбокае спачуванне сям'і памёршага.**

**Калектыў Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача разам з калектывам Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці дырэктара тэатра А. П. ТЭЛІЧАНА і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.**

## З кінакамерай па рэспубліцы

На экранах гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў пачаў дэманстравацца кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 24, створаны на Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў.

Ні холад, ні непагадзь — нішто не перашкодзіла сёлета каралеве палёў там, дзе яе дбайна даглядалі. У гэтым гледачы змогуць пераканацца, калі пагледзяць кінасюжэт «На плантацыях кукурузы», зняты аператарам І. Вейняровічам на вопытным полі вучонага-кукурузавода Сяргея Іванавіча Цішкова ў Смілавіцкім раёне.

Нямала людзей успамінае ў Гродна добрым словам Ілью Іванавіча Кроя. На якіх толькі будоўлях ён ні працаваў! Зараз вы можаце сустрэць яго пад каркасамі азотнатукавага завода. Гэта яму і прысвечан кінасюжэт «Бульдазерыст Ілья Крой».

Вялікую цікавасць выклікаюць у гледачоў кінакадры аб новым канвееры, знятыя аператарам Ф. Осіпавым у механазборачным цэху Віцебскага станкабудаўнічага завода імя XXII з'езда КПСС.

У заключэнне кіначасопіса гледачы разам з кінааматарамі Ігарам Епіхіным і Міхасём Станішэўскім зробяць захапляючае падарожжа па трасе будучага воднага шляху Балтыка—Чорнае мора.

## БІБЛІЯТЭКА ВЫДАТНАЙ ПРАЦЫ

Цэнтральная бібліятэка імя Крупскай — старэйшая ў горадзе Маладзечна. Чытальная зала яе ніколі не пустуе. Тут сустрэнеш школьнікаў, студэнтаў-завочнікаў, навучэнцаў тэхнікумаў і вучылішчаў, рабочых, настаўнікаў, служачых. Яны заўсёды атрымаюць патрэбную кнігу, параду. У бібліятэцы праводзяцца лекцыі, літаратурныя вечары, дыспуты, а пры кінатэатры «Радзіма» па ініцыятыве работнікаў бібліятэкі створаны клуб сяброў кнігі і кіно. Нядаўна тут урачыста адзначылі працоўны поспех работнікаў бібліятэкі: Міністэрства культуры БССР прысвоіла ёй званне «Бібліятэка выдатнай працы».

# У СВЕЦЕ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА

## «КІТАЙСКАЯ ГРАМАТА» І ЯЕ БУДУЧЫНЯ

Калі гутарка ідзе аб незразумелым почырку ці надпісу, вельмі часта ўжываюць выраз «кітайская грамата». Гэта не толькі таму, што да нядаўняга часу спецыялісты ў гэтай галіне культуры былі рэдкасцю, і сама кітайская мова лічылася чымсьці неймаверна складаным, дзіўным — «кітайскай граматай». Справа ў тым, што кітайская пісьменнасць сапраўды складаная і ў першую чаргу таму, што кітайцы пішуць не літарамі, а іерогліфамі.

Іерогліф — своеасаблівы малюнак, графічнае абазначэнне слова або паняцця. Вазьміце ліст паперы, намалюйце круг і пастаўце пасярэдзіне кропку. Перад вамі будзе кітайскі іерогліф, які абазначае сонца. Але не ўсе іерогліфы такія простыя. Абстрактныя паняцці таксама перадаюцца з дапамогай вельмі складаных графічных малюнкаў, якія часта складаюцца з 30 і больш рысачак. Колькасць іерогліфаў даходзіць да 60 тысяч. Праўда, каб быць адносна пісьменным, г. зн., чытаць газету, дастаткова ведаць 3—4 тысячы найбольш распаўсюджаных знакаў. Але вывучэнне і такога мінімуму велізарная цяжкасць і забірае ў школьнікаў некалькі гадоў.

З іерогліфамі трывала звязана кітайская культура. Гэта — не толькі сродак авалодання культурнай спадчынай продкаў, але і сродак зносін паміж людзьмі. Гістарычныя асаблівасці развіцця Кітая прывялі да шматвекавой эканамічнай і культурнай раз'яднанасці асобных раёнаў, да распаду кітайскай мовы на мноства дыялектаў. Пекінец амаль нічога не разумее ў мове ўханьца, а мова жыхароў паўднёвых правінцый здаецца яму замежнай мовай. Калі кітайцы не разумеюць адзін аднаго, яны звяртаюцца да іерогліфаў. Слова «чалавек», напрыклад, гучыць у Пекіне «жэнь», а ў Шанхаі «нін», але пішуцца гэтыя словы ўсюды аднолькава. Адны і тыя ж паняцці сімвалізуюцца аднымі і тымі ж іерогліфамі, і гэта збліжала розныя дыялекты, не дазваляла ператварыцца ім у зусім самастойныя мовы.

Кітайцы любяць сваю пісьменнасць, высока цэняць мастацтва каліграфіі. Але яны разумеюць, што ў цяперашнім сваім выглядзе яна мае вялікія нязручнасці. Праўда, ва ўмовах, калі іерогліфы ўсё яшчэ застаюцца сродкам сувязі паміж жыхарамі розных правінцый, яны пакуль што незамянімы. Перайсці да новай сістэмы пісьменнасці можна толькі пасля таго, як людзі пачнуць разумець адзін аднаго.

Першы этап рэформы пачаўся ў 1955 годзе. На гэтым этапе праводзіцца спрашчэнне і мадэрнізацыя іерогліфаў. Перыядычна ў «Жэньмінь жыбао» і іншых газетах з'яўляюцца спісы чарговай партыі іерогліфаў са спрошчаным напісаннем. Поўнасцю выключана з ужывання каля 2.000 знакаў, якія ў штодзённай практыцы сустракаліся вельмі рэдка. У той жа час ва ўсіх установах, на прадпрыемствах, ва ўсіх навучальных установах краіны вывучаецца пекінская гутарковая мова. Авалоданне ўсімі пекінскай гутарковай мовай дазволіць перайсці ў пісьменнасці да фанетычнага алфавіту. Гэты алфавіт, распрацаваны на аснове лацінскага спецыяльна створаным камітэтам па рэформе пісьменнасці, вывучаецца цяпер ва ўсіх школах.

**Юрый ГАЎРЫЛАЎ.**

## НАРОДНАМУ УНІВЕРСІТЭТУ—30 ГОД

Многія ў Бялградзе добра ведаюць сціплы пяціпавярховы будынак на Студэнцкай плошчы, насупраць невялікага зялёнага сквера. Гэта Каларчаў народны універсітэт. Гавораць, што за пасляваенныя гады яго наведала каля трох мільёнаў чалавек. Калі падзяліць гэты лік на колькасць насельніцтва югаслаўскай сталіцы, то на кожнага бялградца незалежна ад яго ўзросту прыпадзе ў сярэднім па чатыры наведванні.

Штогод у канцы верасня на фасадзе будынка з'яўляюцца афішы. Універсітэт распачынае работу. Асноўная форма яго дзейнасці — лекцыі. Да іх чытання прыцягваюцца прафесары бялградскіх вну, відныя вучоныя, работнікі культуры, грамадскія дзеячы. У цяперашні час у гэтым культурным цэнтры працуе 16 секцый — кафедр: па літаратуры, медыцыне, тэхніцы, эканоміцы, праву і г. д. Побач з лекцыямі па асобных актуальных пытаннях чытаюцца цыклы лекцый па пэўных галінах ведаў. Акрамя таго, ва універсітэце наладжваюцца розныя курсы і выстаўкі, праводзяцца вечары.

Увосень гэтага года універсітэту спаўняецца 30 год. Ён быў заснаваны ў 1932 годзе на грошы, завешчаныя для гэтай мэты вядомым югаслаўскім мецэнатам Ільёй Каларацам. Адсюль і назва універсітэта—Каларчаў. У час вызвалення Бялграда сам будынак і яго абсталяванне вельмі пацярпелі ад пажару. Аднак неўзабаве універсітэт аднавіў работу, якая была спынена ў час фашысцкай акупацыі Югаславіі. Іменна тады і пачынаецца перыяд росквіту народнага універсітэта. Са сціплай культурнай установы ён ператвараецца ў значны цэнтр па прапагандзе ведаў сярод народа.

**Дзмітрый ДЫМАЎ.**

## ВЫСТАЎКА «У ГАСЦЯХ У СЯБРОЎ»

Віды старажытнага маскоўскага Крамля, універсітэт імя М. В. Ламаносава, феерверк на Камсамольскай плошчы, народнае гулянне ў парку культуры імя Горкага і многія іншыя, дарагія сэрцу савецкіх людзей месцы адлюстраваны на палатне і паперы ўмелай рукой мастака. Тут жа — каларытныя пейзажы Каўказа і Падмаскоўя...

«У гасцях у сяброў» — так называецца мастацкая выстаўка, якая адкрылася ў Цэнтральным доме Таварыства германа-савецкай дружбы ў сталіцы ГДР. Выстаўка з'яўляецца свайго роду справаздачай цэлага раду мастакоў ГДР аб іх паездках у Савецкі Саюз, зробленых за апошнія некалькі год. Сярод 140 экспануемых работ — карціны маслам, акварэллю, малюнкі тушшу і алоўкам такіх вядомых у рэспубліцы майстроў пэндзаля, як Вальтэр Дэнеке, Герхард Штэнгель, Вальтэр Вомака, а таксама маладых мастакоў. Усе гэтыя работы былі створаны або непасрэдна ў час паездкі па савецкай краіне, або пасля вяртання на радзіму па беглых накідах, эскізах і замалёўках.

У час агляду выстаўкі мы гутарым з адным з яе галоўных удзельнікаў — мастаком Вальтэрам Дэнеке.

— Мне давялося двойчы пабываць у Савецкім Саюзе, — гаворыць ён. — Усяго мною створана каля 80 работ на тэмы з жыцця вашай краіны. Значная частка з іх — больш за пяцьдзесят — складае перасоўную выстаўку «Пуцявыя замалёўкі ў СССР», якая цяпер падарожнічае з аднаго горада рэспублікі ў другі. Даруйце за нясціпласць, — дадае ён, — дзве мае работы знаходзяцца ў Маскве: іх набыў музей выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна. Вось гэтыя работы,— В. Дэнеке паказвае на некалькі выразных акварэлей, — напісаны мною ў Маскве, Загорску, Сухумі, Тбілісі.

Выстаўка «У гасцях у сяброў», якая будзе дэманстравацца ў Берліне да сярэдзіны кастрычніка, прыцягвае ўвагу многіх жыхароў сталіцы ГДР і з'яўляецца ўкладам нямецкіх мастакоў ва ўмацаванне дружбы з Савецкім Саюзам.

**Яўгеній БАШМАЧНІКАЎ.**

## ГЕРОІ НАРЫСАЎ—ЛЮДЗІ ПРАЦЫ

У сучаснай чэхаславацкай літаратуры ганаровае месца належыць нарысу. Нарысіст — гэта даследчык сучаснасці, гавораць у Чэхаславакіі. Ні ў якой іншай літаратурнай форме так непасрэдна не адлюстроўваецца стваральнае жыццё сацыялістычнай краіны і вялікія грамадскія перамены. Нядаўна на кніжны рынак Чэхаславакіі паступілі два новыя зборнікі нарысаў аб жыцці Славакіі «Доўгі шлях» Рамана Каліскага і «Горад жыве заўтра», Магды Матушчыкавай.

Зборнік Рамана Каліскага— гэта нібы творчая справаздача за некалькі год работы. У яго нарысах аб Славакіі — аб яе людзях, вёсках, заводах, аб іх гісторыі — адчуваецца выдатнае веданне Славакіі і любоў да яе. Самае важнае для аўтара — чалавечы лёс. «Яго людзі, — піша чэхаславацкі крытык Б. Труглярж, — цікавыя самі па сабе, а тым больш як увасабленне новых грамадскіх плыней». Ён піша аб вінаградарах з-пад Браціславы, аб былым свяшчэнніку, які стаў перадавіком на будоўлі, аб людзях з алюмініевага завода, аб гісторыі металургічнага завода і аб яго рабочых у нарысе аб Падбрэзаве.

Людзі — гэта героі нарысаў і Магды Матушчыкавай. Яе зборнік «Горад жыве заўтра» прысвечаны будаўніцтву «Слаўнафта» — буйнага прадпрыемства паблізу Браціславы па перапрацоўцы савецкай нафты, што паступае па нафтаправоду «Дружба». З нарысаў Магды Матушчыкавай чытач не вельмі многа даведаецца тэхнічных падрабязнасцей будаўніцтва. Аўтар піша аб людзях і аб часе, у які яны жывуць, аб рабочых з брыгады сацыялістычнай працы, і аб тым, як яны перажываюць з поваду хваробы таварыша, аб інжынеры, для якога сэнс жыцця — у працы, і наогул аб чалавеку ў працэсе працы. М. Матушчыкавай, указвае чэхаславацкая крытыка, удалося раскрыць, як пастунова, але няўхільна ўсталёўваюцца паміж людзьмі новыя сацыялістычныя адносіны, як людзі радуюцца шчасцю і поспехам іншых.

Нарысы рамана Каліскага і Магды Матушчыкавай — гэта жывыя карціны з жыцця сучаснай Чэхаславакіі, з жыцця яе простых выдатных людзей.

**Т. КУДРАЎЦАВА. (ТАСС).**

**Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.**
**Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Г. Р. ШЫРМА.**

**Калектыў работнікаў Міністэрства культуры БССР выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы міністэрства ШЫЯНОК Тамары Аляксандраўне з выпадку напаткаўшага яе гора—смерці БАЦЬКІ.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск. | Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-22-04, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03 | «Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу

АТ 01317. Друкарня выдавецтва «Звязда».